# Віншуем з 81-мі ўгодкамі Беларускай Народнай Рэспублікі!

ПАГОНЯ

Чацвер
25 сакавіка 1999 г.
№ 21 (398)
Кошт 15.000 руб.

## Папярэджанні, штрафы, збіццё, пратаколы...

**Сябры ініцыятыўных груп БНФ «Адраджэнне» працягваюць збор подпісаў за вылучэнне Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. Улады чыняць ўсялякія перашкоды. Да затрымання актывістаў падключаны органы ўнутраных справаў.**

Так, на вуліцы Савецкіх Пагранічнікаў, 146 участковым інспектарам Кастрычніцкага РАУС горада Гродна старшым лейтэнантам міліцыі П.Якаўлевым быў затрыманы зборшчык подпісаў Тадэвуш Падлях. Складзены пратакол аб канфіскацыі чатырох запоўненых падпісных лістоў, якія ўтрымлівалі 10 подпісаў за вылучэнне Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты. Тадэвуша пратрымалі больш як чатыры гадзіны ў пастарунку.

Гэта не адзінкавы выпадак затрымання актывістаў БНФ «Адраджэнне». Напрыклад, у мікрараёне Дзевятоўка супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы Рыгор Фарманян, у якога канфіскавалі незапоўненыя бланкі падпісных лістоў. Два сябры ініцыятыўных груп былі аштрафаваны на некалькі мільёнаў рублёў.

Паводле словаў Старшыні Гарадзенскай гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэнне» Сяргея Мальчыка, усяго за час збору подпісаў органамі міліцыі канфіскавана 15 падпісных лістоў з уласнаручнымі подпісамі грамадзян. Але агульная колькасць подпісаў, пададзеных за кандыдатуру лідара Беларускага Народнага Фронта, перавышае ужо неабходную для рэгістрацыі Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты Беларусі.

**Сцяпан Ярашчук**

## Ці выкруцяць рукі палякам?

**На гэтым тыдні ў Менску павінна адбыцца сустрэча кіраўнікоў Саюза палякаў на Беларусі (СПБ) і Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь. Як паведаміў намеснік старшыні Саюза палякаў Тадэвуш Малевіч, на сустрэчы плануецца абмеркаваць праблемы, якія існуюць ва ўзаемаадносінах гэтай арганізацыі і ўладаў рэспублікі.**

Нагадаем, што кіраўніцтва Саюза палякаў адмовілася ад удзелу ў мерапрыемствах III Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, які адкрыўся 27 лютага, у знак пратэсту супраць палітыкі беларускіх уладаў, якая, на думку СПБ, накіравана на русіфікацыю беларускіх палякаў. Паводле словаў Т.Малевіча, пасля гэтага прадстаўнікі Гарадзенскага аблвыканкама адмаўляюцца размаўляць з кіраўнікамі СПБ і непасрэдна звязваюцца з калектывамі мастацкай самадзейнасці Саюза, спрабуючы прыцягнуць іх да ўдзелу ў фестывалі нацыянальных культур. Т.Малевіч не выключае, што некаторыя мастацкія калектывы СПБ будуць вымушаны ўзяць удзел у фестывалі, паколькі яны дзейнічаюць пры раённых дамах культуры і іхнія кіраўнікі атрымліваюць там заробак, з'яўляючыся, такім чынам, «паднявольнымі» людзьмі.

Аднак, падкрэсліў Т.Малевіч, нягледзячы на магчымы ўдзел асобных калектываў, СПБ будзе ігнараваць фестываль, пакуль дзяржава не зверне ўвагу на праблемы беларускіх палякаў.

**Марат Гаравы**




**25 і 26 сакавіка** - невялікія ападкі. Вецер паўднёва-заходні, слабы. Тэмпература паветра ўначы 0...-3, удзень +1...+3.

## 25 сакавіка - Дзень малітваў за Бацькаўшчыну

**Мы, нягодныя слугі Твае, Збавіцелю, Уладару і Госпадзе, прыходзім да Тваёй спагадлівасці і дзякуем са страхам і трымценнем за ўсе дабрадзействы, якімі Ты шчодра абдарыў нашу краіну Беларусь; і, прыпаўшы да Цябе, пакорна просім захаваць яе свабоднай і ў супакоі. Пакажы Тваю заўсёдную міласэрнасць нашаму беларускаму народу, спаўняючы ўсе ягоныя добрыя жаданні і намеры; і дай яму дух справядлівасці, згоды, братняй любові і шчырай набожнасці. Горача молімся Табе, пачуй нас і змілуйся.**

(З Малебну за беларускі народ)

## Пастырскае Слова Апостальскага візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» грэка-каталікоў Беларусі на свята Дабравешчання 25 сакавіка 1999 года

Дарагія ў Госпадзе Браты і Сёстры!

У святочны дзень Дабравешчання Святая Царква адзначае вялікую таямніцу Уцелаўлення Сына Божага - Ісуса Хрыста.

На працягу стагоддзяў нашыя продкі знаходзілі радасць у праўдзе пра тое, што Спрадвечны Сын Божы стаўся чалавекам. Праўда аб Уцелаўленні Ісуса Хрыста і сёння з'яўляецца для нас крыніцай радасці ды надзеі. Праўда гэтая асабліва актуальная ў часе, калі ўсе хрысціяне рыхтуюцца да Юбілею 2000-га году.

Як вядома, праз 9 месяцаў - у Ноч Божага Нараджэння 1999 году - Святы Айцец адчыніць Святыя Дзверы ў ватыканскай Базіліцы святога Пятра і распачне Вялікі Юбілей 2000-га году.

Уцелаўленне Ісуса Хрыста, Божага Сына, - гэта крыніца годнасці кожнага чалавека, а таксама выток годнасці кожнага народу.

Калі сёння, 25 сакавіка - у свята Дабравешчання, паводле традыцыі мы ўзгадваем Беларусь, молімся найперш за яе духоўнае адраджэнне на падмурку Евангелля Ісуса Хрыста.

Новую Беларусь могуць будаваць толькі новыя людзі, адноўленыя Евангеллем Ісуса Хрыста. Евангелля не трэба баяцца, яно нясе сапраўдную свабоду і з'яўляецца крыніцай творчага натхнення. Той, хто гэтага не разумее, застаецца рабом старога менталітэту і ніколі не пакаштуе сапраўднае свабоды. Гэта і ёсць пасланне Евангелля, якое хрысціянскія Цэрквы ў Беларусі павінны з асаблівай руплівасцю абвяшчаць на парозе Трэцяга Тысячагоддзя.

Браты і Сёстры! Усіх вас, вернікаў і сяброў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, заклікаю ды запрашаю: у рамках 9-месячнай падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею старайцеся кожны дзень чытаць урывак Святога Пісання, асабліва Новага Запавету. Моладзь і дарослых запрашаем да малітоўна-біблійных гурткоў у нашых парафіях, у якіх супольнае чытанне Слова Божага, пад кіраўніцтвам святароў або катэхетаў, павінна спрыяць пазнанню Евангелля, паглыбленню веры ды ўмацаванню любові да Царквы. Няхай асабістае чытанне Біблії - Слова Божага - на роднай мове паглыбіць нашу любоў да Бацькаўшчыны.

У перспектыве Трэцяга Тысячагоддзя дыялог паміж хрысціянамі, дыялог паміж верай і культурай, які вядзецца ў духу Евангелля, з'яўляецца неабходнай умовай паспяховай евангелізацыі грамадства.

Беларусі сёння патрэбныя людзі мужныя, якія не баяцца цяжкасцяў жыцця Евангеллем. Да асаблівай евангелізацыйнай мужнасці заклікаецца творчая інтэлігенцыя і маладое пакаленне - пра гэта казаў Папа Ян Павел II каталіцкім біскупам Беларусі 7 красавіка 1997 году падчас іхняга візіту «ad limina Apostolorum».

Спрадвечнае Святло Божага Аблічча заззяла для ўсіх нас у тайнах св. Хросту і Хрызмавання (Мірапамазання), праз якія мы сталіся ў Хрысце сынамі і дачкамі Бога - нашага Айца. У гэтым наша вялікая годнасць. У гэтым таксама і нашае вялікае заданне: быць сведкамі Ісуса Хрыста ў нашым штодзённым жыцці, сведчыць іншым людзям, што Бог іх любіць і шукае, што запрашае іх у сваю сям'ю - адзіную, святую, паўсюдную і апостальскую Царкву.

Браты і Сёстры!

Няхай сённяшняе свята Дабравешчання і ўвесь святы час Вялікага посту будзе для ўсіх нас часам духоўнае адновы і ўзаемнае малітвы за сябе.

Няхай Ісус Хрыстос, Адзінароднае Слова Бога, які дзеля нашага збаўлення захацеў прыняць цела ад Святое Багародзіцы і заўсёды Дзевы Марыі, быў укрыжаваны за нашыя грахі і смерцю сваёй знішчыў смерць, даруе ўсім нам Сваё блаславенства.

**Архімандрыт Сяргей Гаек**
**Рым - Менск,**
**25 сакавіка 1999 году**



**Дабравешчанне. Зёлаўскі майстар. Другая палова XVIII ст. Свята-Троіцкая царква в. Зёлава Драгічынскага раёна Берасцейскай вобласці**

## Вёска Пышкі перайшла ў апазіцыю

**Жыхары вёскі Пышкі, што побач з горадам Гродна, адмаўляюцца ў поўным складзе ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя Саветы.**

Праз іх вёску гарадзенскі камбінат будаўнічых матэрыялаў возіць вялікагрузнымі грузавікамі МАЗ і КАМАЗ крэйду з кар'ера «Пышкі-2». У выніку знішчаны асфальт, пакладзены за кошт жыхароў, што робіць немагчымым праезд не толькі асабістага транспарту вяскоўцаў, але і аўтамашын «Гаргазу», «Хуткай дапамогі» ды інш.

Пры выдзяленні калгаснай зямлі пад распрацоўку кар'ера жыхарам Пышкаў далі абяцанне пабудаваць дарогу ў самыя кароткія тэрміны, але атрымалася, як у нас павялося: абяцанкі-цацанкі.

**Б.Кашталян**

## Хто лепшы фермер?

**У вобласці падведзены вынікі рэспубліканскага конкурсу на лепшага прадпрымальніка па выніках мінулага года.**

Сярод фермерскіх гаспадарак лепшымі прызнаныя гаспадаркі Міхаіла Макея з Зэльвенскага раёна і Генрыха Мысліўца з Мастоўскага раёна.

**«ГС»**

## Беларусь - за Хрыста !

**Напачатку 90-х гадоў у нашай краіне пачалі з'яўляцца першыя парафіяльныя моладзевыя суполкі. Неўзабаве пры касцёлах Гродна, Менска, Магілёва, іншых гарадоў паўсталі школы евангелізацыі. Вывучаецца Біблія, жыццё і дзейнасць Хрыста, яго вучняў і паслядоўнікаў. Атрыманыя веды распаўсюджваюцца ў моладзевых аўдыторыях.**

Гарадзенскія юнакі і дзяўчаты штотыднёва збіраюцца ў мясцовым Брыгіцкім касцёле. У большасці гэта студэнты і вучні старэйшых класаў школ і гімназій горада. Разам - каля 40 асобаў. Пры дапамозе святара яны вучацца слухаць імшу, набываюць веды з гісторыі хрысціянства, удзельнічаюць у семінарах, падчас якіх, напрыклад, спрабуюць вызначыць сваё месца ў супольным жыцці грамадства, праглядаюць відэафільмы на біблейскія тэмы.

Слухачы моладзевай школы евангелізацыі неаднаразова сустракаліся са сваімі аднагодкамі з Польшчы, Чэхіі, Італіі, Францыі. Сумесна ладзілі канферэнцыі.

Пяць гадоў таму навучэнцы школы стварылі тэатральную групу. Рэгулярна рыхтуюцца сцэнкі да Раства Хрыстова, Вялікадня. А затым агучваюцца на канцэртах. Амаль гадзінная праграма падрыхтавана і зараз.

28 сакавіка, у нядзелю, ў 18.00 у гарадскім тэатры лялек адбудзецца вечарына, прысвечаная цудоўнаму ўваскрэшанню Збавіцеля - Ісуса Хрыста.

**Антон Лабовіч**

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Зварот да беларускага народу

Дарагія суродзічы!

Зноў чорная хмара вісіць над Беларусьсю. Зноў, так як і Чарнобыльская, надышла яна з Усходу. У надзеі на лепшую долю, некаторыя гатовы зноў зьвязаць свой лёс з сваім адвечным захопнікам, бо ім кажуць, што народ наш няжыцьцяздольны.

81 год таму, нашыя дзяды абвесьцілі сьвету, што яны ёсьць жыцьцяздольныя. І што ЯНЫ гаспадары на сваёй зямлі. Сёньня мы адзначаем гэты вялікі дзень - калі народ наш здабыў права «людзьмі звацца» і людзьмі быць.

У гэты памятны дзень я хацела б, каб кожны з нас задумаўся над тым, што ён можа зрабіць, каб не дапусьціць да паноўнага гвалту над беларускім народам. Як не дапусьціць, каб народ наш праспаў апошнюю магчымасьць выратавацца ад новай няволі - інтэграцыі ў расейскую імпэрыю - якая яму пагражае ў гэтым 1999-м годзе.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ўжо 80 гадоў змагаецца за вольную і незалежную Беларусь. У вялікай меры дзякуючы гэтаму змаганьню, мы яшчэ існуем як нацыя. Але толькі беларускі народ можа вырашыць сваю будучыню, вырашыць - ці ён хоча жыць у сваёй вольнай і незалежнай дзяржаве, ці ў расейскай правінцыі. Калі гэтага не зразумее, зноў прачнецца ў няволі. І, як кажа наш вялікі пісьменьнік Васіль Быкаў, «той раз - назаўжды». Масква больш ня выпусьціць нас з сваіх кіпцюроў, і трэба будзе ў «крывавых муках» ізноў здабываць страчаную людзскую годнасьць. На што мы можам ўжо не здабыцца.

Дарагія суродзічы, на пасадзе прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь сёньня ня «свой чалавек», як некаторым з вас думаецца, а маскоўскі калябарант, які працуе выключна на карысьць імпэрыі. Месяц пасьля таго, як ён кляўся ў сваім навагоднім пасланьні, што незалежнасьць Рэспублікі Беларусь - рэч «сьвятая», 12-га лютага ўжо гаварыў аб зьмене Канстытуцыі, аб патрэбе магутнага прэзыдэнта ў новай аб'яднанай расейска-беларускай дзяржаве, аб велізарным ваенным патэнцыяле такой дзяржавы.

Дарагія мае сёстры-беларускі, зьвяртаюся да вас, бо так як і вы, бясконца люблю наш край, наш беларускі народ. Няўжо вы дазволіце, каб вашыя сыны і ўнукі зноў паміралі за чужую імпэрыю? Яшчэ ня позна сказаць Лукашэнку ды яго маскоўскім паплечнікам: годзе ўжо нас абдурваць! Мы хочам жыць у нашай уласнай дзяржаве, бяз страху, бяз войнаў, жыць дружна з нашымі суседзямі, гандляваць зь імі, але адначасна быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Мы хочам жыць у дэмакратычнай і незалежнай Беларусі.

Дарагія суродзічы! Прашу і заклікаю вас - прачніцеся, пакуль яшчэ не позна! Не дапусьціце да ліквідацыі нашай дзяржавы! Ад вас залежыць будучыня вашых дзетак, вашых унукаў. Не пакіньце ім у спадчыну забраны, панявolены край заміж вольнай, заможнай і гордай Бацькаўшчыны. Разам мы яе абудзем, вылячым ад ейных боляў. Але толькі вы можаце не дапусьціць, каб яна загінула.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

# Выбары будуць. Выбару - не будзе

**Ідучы гэтымі днямі каля будынка Скідальскага сельскага Савета, я заўважыў на стэндзе аб'яваў свежыя паперкі. Вырашыў паглядзець, што там на іх надрукавана. Гэта былі сьпісы кандыдатаў у дэпутаты абласнога, раённага і сельскага Саветаў, якія вылучаны працоўнымі калектывамі ў межах Скідальскага сельскага Савета. У абласны Савет - два кандыдаты па Скідальска-Азёрскай выбарчай акрузе N31, у раённы -тры, а ў сельскі - аж 14. Калі я ўважліва прачытаў прозвішчы кандыдатаў у дэпутаты, дык прыйшоў да думкі, што ў нас 4 красавіка адбудуцца не выбары, а галасаванне. Чаму? Таму, што па ўсіх выбарчых акругах у раённы і сельскі Саветы балатуецца па аднаму кандыдату. Альтэрнатывы няма, а з гэтым няма і выбараў. Чыноўнікам з вертыкалі такія выбары даспадобы, каго яны захацелі, таго і вылучылі пад прыкрыццём працоўнага калектыву.**

Каб на патрэбным узроўні вырашаць людскія праблемы, трэба, каб сярод кандыдатаў у дэпутаты было больш людзей радавых, ад станка, плуга, палядоваў, жывёлаводаў. А дзе ж яны? У абласны Савет балатуецца два кандыдаты па адной акрузе - старшыня СКП «Абухава» І.Сянько і ўрач-тэрапеўт Скідальскай гарадской бальніцы У.Бедыс. Нівводны з радавых не трапіў у раённы Савет. Тут балатуюцца дырэктар Скідальскага масласыраробнага завода Л.Руды, старшыня Скідальскага сельскага выканкама В.Казак і старшыня калгаса «Скідальскі» М.Новік. Усяго ў раённы Савет балатуецца 40 кандыдатаў у дэпутаты, і сярод іх толькі адзін рабочы - А.Шэндэрук, прадавец. І характэрна тое, што ні ў аднаго кандыдата ў дэпутаты няма альтэрнатывы. У Скідальскі сельскі Савет балатуецца 14 кандыдатаў у дэпутаты, а таксама па аднаму чалавеку на выбарчую акругу. З усіх толькі два радавыя - гэта трактарыст С.Кніга і кладаўшчыца Т.Хаванская. І як факт, што кандыдацкі корпус, а пасля выбараў і дэпутацкі, будзе складацца з чыноўнікаў розных рангаў, якія вырашаюць лёс людзей, падначаленых ім па рабоце. Яны (тыя чыноўнікі) і ў мясцовай уладзе будуць вырашаць, як ім будзе выгадна, а не людзям.

Не так даўно на больш як 30 вёсак Скідальскага сельскага Савета выбіралася 58 дэпутатаў, а гэта болей, чым па аднаму на кожную вёску, а ў вялікіх - дэпутатаў было па 2-3. Цяпер жа нават і па аднаму не прыходзіцца на вёску. Каму было выгадна скарачаць колькасць дэпутатаў з 58 да 14? Не інакш, як кіраўніку сельскага выканкама. Менш дэпутатаў - менш клопатаў і праблем у выкананні сваіх службовых абавязкаў.

Чыноўнікі, заваяваўшы дэпутацкія крэслы ў мясцовых органах улады, будуць не зацікаўлены вырашаць сацыяльныя і эканамічныя праблемы людзей, а будуць клапаціцца, як і раней, пра свае. Свая ж кашуля бліжэй да цела. Да таго ж, раз няма выбару сярод кандыдатаў у дэпутаты, многія выбаршчыкі схільныя на галасаванне не ісці. І маюць рацыю.

**Ільля Барысаў**

# Пазіцыю Польшчы выслухаць нават не пажадалі...

**22-23 сакавіка ў Менску прайшла канферэнцыя «Польшча — у НАТО», арганізаваная Амбасадай Рэспублікі Польшча ў Беларусі і Цэнтрам міжнародных адносінаў (Варшава).**

Адкрыццё канферэнцыі было азмрочана інцыдэнтам. Яна павінна была распачацца а 11-й гадзіне ў памяшканні Рэспубліканскага культурна-асветніцкага цэнтра, будынак якога падпарадкаваны упраўленню справамі прэзідэнта Беларусі. Аднак літаральна за некалькі гадзін да адкрыцця канферэнцыі яе арганізатарам было адмоўлена ў прадастаўленні памяшкання. Прычым, прадстаўнікі цэнтра спасылаліся на тэлефонны званок з адміністрацыі прэзідэнта. У выніку чаго, мерапрыемства давялося перанесці ў будынак польскай Амбасады.

Адкрываючы канферэнцыю, Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Марыюш Машкевіч адзначыў, што мэта канферэнцыі — абмеркаваць усе аспекты палітычнага рашэння Польшчы, Чэхіі і Венгрыі аб уступленні ў НАТО. Кажучы пра ролю Польшчы ў фармаванні новай сістэмы еўрапейскай бяспекі, каардынатар праграм бяспекі Цэнтра міжнародных адносінаў Олаф Осіца заўважыў, што гэтая сістэма пакуль яшчэ не склалася. Польшча мае намер унесці свой пасільны ўклад у яе фармаванне. З уступленнем у НАТО, падкрэсліў ён, краіна атрымала гарантыі бяспекі, пра якія раней і не марыла. Адначасова, паводле словаў О.Осіцы, Польшча «зацікаўлена ў тым, каб як мага менш выконваць ролю ўсходняй мяжы НАТО».

«Каб сістэма бяспекі была эфектыўнай, неабходна, каб яна грунтавалася на трох прынцыпах: эфектыўнай ваеннай сіле, палітычным кансенсусе і сумесна прызнаваемых каштоўнасцях», — заявіў О.Осіца.

Асноўныя палажэнні сучаснай абароннай дактрыны прадставіла галоўны рэдактар штотыднёвіка «Польска збройна» Ія Вангроўска. Адпаведна яе словам, членства ў НАТО не было самамэтай Польшчы, хутчэй за ўсё гэта быў пошук партнёра, на якога можна было б абаперціся. «Мы разглядалі НАТО не як арганізацыю, якая стаіць над дзяржавамі, а як арганізацыю супрацоўніцтва», — заявіла яна. Што тычыцца ваеннай дактрыны і стратэгіі Польшчы ў кантэксце ўступлення ў НАТО, то, паводле меркавання Вангроўскай, яны не паўтараюць дактрыну і стратэгію альянсу, а ўпісваюцца ў іх. Таму, падкрэсліла яна, Рэспубліка Польшча можа праводзіць самастойную палітыку.

Што да пытанняў узаемаадносінаў Беларусі і НАТО, беларускай ваеннай дактрыны, то і яны былі асветлены падчас канферэнцыі. Амбасадар Чэхіі ў Літве спадар Філе са здзіўленнем заўважыў, што дагэтуль адносіны НАТО з Беларуссю не аформлены па двухбаковай схеме, як з Украінай і Расіяй. А быў міністр абароны Беларусі Павел Казлоўскі, як браў удзел у канферэнцыі, адзначыў, што цяперашнім часам ваенная дактрына Беларусі носіць цалкам абарончы характар. Праўда, па яго інфармацыі, беларуская ўлады зараз распрацоўваюць новы варыянт дактрыны, які, на думку Казлоўскага, будзе больш агрэсіўным. Такую выснову ён зрабіў, у прыватнасці, грунтуючыся на заявах прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі, які шкадуе аб паспешлівым вывадзе з Беларусі ядзернай зброі.

Стаўленне беларускага грамадства да пашырэння НАТО на ўсход мае два аспекты — аб гэтым заявіў старшыня Савета Беларускай Еўраатлантычнай асацыяцыі Мячыслаў Грыб. З аднаго боку, ён адзначыў заявы беларускага кіраўніцтва аб тым, што пашырэнне альянса за кошт краін былой Арганізацыі Варшаўскага дагавора з'яўляецца гістарычнай памылкай. З другога боку, паводле словаў М.Грыба, грамадства зыходзіць з прынцыпаў міжнароднага права, у тым ліку права кожнай краіны самастойна прымаць рашэнне аб калектыўнай абароне, бяспецы і ўступленні ў той ці іншы саюз. Аднак, падкрэсліў кіраўнік асацыяцыі, Беларусь хацела б, каб такія рашэнні прымаліся без стратаў для бяспекі іншых краін і, у першую чаргу, краін-суседзяў.

Беларускае грамадства, адзначыў М.Грыб, бачыць далейшае супрацоўніцтва з НАТО ў абмене ваеннымі дэлегацыямі на розных узроўнях, кансультацыях па пытаннях ваеннага будаўніцтва і рэфармавання Узброеных Сіл, падрыхтоўцы ваенных спецыялістаў, пошукава-выратавальных аперацыях, аказанні гуманітарнай дапамогі пры ліквідацыі наступстваў катастроф і стыхійных бедстваў, выкарыстоўванні новых тэхналогій у сферы канверсіі, скарачэнні ўзбраенняў, іхняй утылізацыі і забеспячэнні экалагічнай бяспекі.

**Вячаслаў Будкевіч**

# Вясна. Незалежнасць. Свабода

**Аргкамітэт па святкаванні 81-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі звярнуўся да суайчыннікаў з заклікам адзначыць дзень 28 сакавіка як буйнейшае нацыянальнае свята.**

У звароце гаворыцца, што ў цяперашніх умовах беларускаму народу даводзіцца працягваць барацьбу за ідэалы незалежнасці і свабоды. «Але павярнуць гісторыю назад, зацягнуць Беларусь у каланіяльную багну не ўдасца нікому», — зазначаецца ў звароце. 28 сакавіка ў Менску пройдзе прысвечаная гэтаму дню масавая акцыя апазіцыі. А 12-й гадзіне з плошчы Якуба Коласа пачнецца ўрачыстае шэсце «Вясна. Незалежнасць. Свабода», якое пройдзе па праезнай частцы праспекту Францыска Скарыны і вуліцы Янкі Купалы. На плошчы Парыжскай Камуны адбудзецца мітынг.

У аргкамітэт па святкаванні 81-й гадавіны БНР, які узначальвае вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч, увайшлі кіраўнікі некалькіх буйнейшых партый і рухаў краіны, прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі: Лявон Баршчэўскі, Станіслаў Багданкевіч, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Мячыслаў Грыб, Генадзь Карпенка, Аляксей Марачкін, Іван Нікітчанка, Павел Севярынец, Юрый Хашчавацкі, Юрый Хадыка, Сямён Шарэцкі, Станіслаў Шушкевіч і многія іншыя.

**Генадзь Барбарыч**

# Мірон патрабуе вызваліць Плешчанку

**Свабоды для старшыні віцебскай рады «Выбар» Беларускага Народнага Фронту Уладзіміра Плешчанкі запатрабаваў вядомы «Мірон» — група апазіцыянераў, якая на працягу апошніх некалькіх гадоў актыўна дэманструе сваю нязгоду з палітыкай беларускіх уладаў (распаўсюджвае улёткі апазіцыйнага зместу, вывешвае бел-чырвона-белыя сцягі на адміністрацыйных будынках і гэтак далей).**

Патрабаванне вызваліць У.Плешчанку змяшчалася ў запісцы, прывязанай да дрэўка бел-чырвона-белага сцяга, які быў устаноўлены на вяршыні апоры высакавольтнай лініі электраперадач над раённым цэнтрам Лёзна. Запіска, якую пакінулі пад напружаннем у 35 тысяч вольт, абвяшчала: «Наяўнасць палітзняволеных на маёй Радзіме пацвердзіла антыбеларускі курс рэжыму. Свабоду Уладзіміру Плешчанку! Мірон». Як вядома, менавіта «Мірон» узяў на сябе адказнасць за дэмантаж помніка расійскаму палкаводцу Сувораву, у чым зараз абвінавачваецца У.Плешчанка. У ноч на 1 верасня 1998 года, калі быў зроблены дэмантаж помніка, на пустым пастаменце знайшлі запіску наступнага зместу: «У 1794 годзе Сувораў утапіў у крыві паўстанне беларусаў за незалежнасць ... Помнікі Сувораву на Беларусі — гэта ганьба беларускага народа».

**Леў Каменскі**

# Антончык заклікае да агульнанацыянальнага страйку

**Адзіным магчымым выніковым метадам уплыву на ўладу Рэспубліканскі стачачны камітэт (РСК) лічыць правядзенне агульнанацыянальнай аднадзённай забастоўкі «з прыпыненнем усіх вытворчасцяў і выхадам людзей на вуліцы» з патрабаваннем павышэння заробнай платы, Аб гэтым заявіў старшыня РСК, вядомы актывіст рабочага руху, былы дэпутат Вярхоўнага Савета Сяргей Антончык у інтэрв'ю, што апублікавана ў апошнім нумары незалежнага штотыднёвіка «Свободные новости».**

Паводле ягоных словаў, з эканамічнага пункту гледжання, ніякіх стратаў ад правядзення такой акцыі не будзе, паколькі «кожнае прадпрыемства сёння так ці інакш прастойвае рэгулярна па некалькі дзён запар».

Нагадаем, што Рэспубліканскі стачачны камітэт быў створаны ў снежні 1998 года і мае, адраведна словаў Антончыка, «практычна на кожным прадпрыемстве сваіх людзей, якія займаюцца арганізацыяй стачкамаў на месцах, рыхтуюць розныя акцыі салідарнасці, пратэсту». Паводле меркавання лідара РСК, «масавы выхад на вуліцы і незадавальненне рабочых» вымусяць Аляксандра Лукашэнку ўзяць грошы з пазабюджэтнага прэзідэнцкага фонду, што «сабраныя на падрыхтоўку выбараў і падкормліванне расійскіх спецслужбаў, ўзмацненне сваёй асабістай улады». Паводле словаў С.Антончыка, гэты фонд значна перавышае бюджэт рэспублікі, а таму сродкаў, узятых з яго, хопіць на істотнае павелічэнне заробкаў, пенсій, дапамогаў.

Акрамя эканамічных патрабаванняў, бастуючыя, на думку кіраўніцтва Рэспубліканскага стачачнага камітэта, прад'яўляць патрабаванне па адстаўцы ўрада і ўсёй прэзідэнцкай «вертыкалі» і, нарэшце, «прымусяць» А.Лукашэнку пайсці на прэзідэнцкія выбары сёлета ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1994 года.

**Юрый Кузняцоў**

# «Старший» брат зноў вырашыў падсунуць малодшаму небяспечныя цацкі?

**Міністэрства абароны і Генеральны штаб Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі ўначы з 23 на 24 сакавіка падрыхтавалі прапановы прэзідэнту Барысу Ельцыну ў сувязі з магчымымі бамбардзіроўкамі Югаславіі. Як паведамілі ўчора раніцай вядучыя расійскія тэлеканалы, сярод гэтых прапаноў — вяртанне ядзернай тактычнай зброі на тэрыторыю Беларусі.**

Нагадаем, што Беларусь атрымала статус бяз'ядзернай дзяржавы напрыканцы лістапада 1997 года, калі з тэрыторыі краіны была вывезена ў Расію апошняя міжкантынентальная балістычная ракета. Бяз'ядзерны статус дзяржавы замацаваны ў дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Акрамя гэтага, Міністэрства абароны і Генштаб Расіі прапанавалі расійскаму міратворчаму батальёну ў Босніі і Герцагавіне, які знаходзіцца ў складзе Сіл стабілізацыі (СФОР) НАТО, выконваць распараджэнні выключна Генштаба Расіі. На разгляд Б.Ельцына ўнесены таксама прапановы па пытанню аб адкліканні са штаб-кватэры НАТО ў Бруселі пастаяннага прадстаўніка Расіі пры гэтай арганізацыі і аб прыпыненні ўдзелу Расіі ў праграме НАТО «Партнёрства дзеля міру». У самы бліжэйшы час чакаецца спецыяльная заява прэзідэнта Расіі па сітуацыі вакол Югаславіі.

Спробы пракаментаваць прапанову аб магчымасці вяртання на тэрыторыю Беларусі ядзернай зброі ў Савеце бяспекі рэспублікі пакуль не ўвянчаліся поспехам. На момант выхаду гэтага нумару ПАГОНІ ў свет, як заявілі ў прэс-службе Савета бяспекі, там праходзіла нарада.

**Ул. Інф.**

# Іронія лёсу або Дзень тэатра

**«З каго смяецеся? Ды з сябе смяецеся!» - згадваецца крылатая фраза мінулага стагоддзя, калі глядзіш па тэлевізіі нейкую камедыю расейскае альбо замежнае вытворчасці. Урэшце задумваешся: а ці мы, беларусы, умеем з сябе пасмяяцца, крыху паіранізаваць, каб пачуцца хоць на хвіліну здаровымі нармальнымі людзьмі? Ці здольныя мы адмовіцца ад заўсёднага плакання ў камізэльку ды наракання на гаротны лёс, ад калгаснай псеўдафальклорнасці ў мастацтве ды, кажучы абагулена, ад фатальна-апакаліптычнага светабачання?**



Гарадзенскі тэатр лялек. Сцэна са спектакля «Цудоўная дудка»

Падобныя пытанні паўстаюць пасля прачытання ў айчынным друку нізкі вершаў ці палымяна-набатнай публіцыстыкі. Часам пасля прагляду спектакля, які закранае чыста беларускую тэматыку. Штораз пераконваюся (выбачайце, гэта маё асабістае меркаванне): не стае сёння, калі рэальнае жыццё з камедыі перatварылася ў фарс, многім людзям якраз пачуцця самаіроніі і дыстансавання погляду на стан рэчаў.

Дзе ж атрымаць станоўчы зарад эмоцый? Зразумела, у храме мастацтваў - тэатры. Мне, як карэннаму гарадзенцу, прыгадваюцца спектаклі Гарадзенскага абласнога тэатра лялек, якія сталі значнымі падзеямі ў культурным жыцці Гарадзеншчыны. Гэта «Цудоўная дудка» В.Вольскага і «Лекар паняволі» Ж.-Б.Мальера, «Тутэйшыя» Я.Купалы і «Як здароўе?» («Пісаравы імяніны») Ул.Галубка, «Прыхадзень» М.Эйроля і «Ліпавічкі» А.Ляляўскага...

На першы погляд спектаклі «Прыхадзень» (пастаноўка рэжысёра Мікалая Андрэева паводле аднайменнага апавядання французскага калегі Макса Эйроля) і «Ліпавічкі» (пастаноўка рэжысёра Аляксея Ляляўскага паводле п'есы Ул.Галубка «Ліпавічок») - рэчы рознапланавыя, тэматычна ды ідэйна не звязаныя. Але сам факт, што яны паўсталі менавіта на гарадзенскай сцэне, з'яўляецца знамянальным. Памятаецца, як колькі гадоў таму «прагрымела» лялечная версія купалаўскіх «Тутэйшых» у пастаноўцы М.Андрэева, выклікаўшы сапраўдны фурор сярод тэатралаў. Апошнім часам на гарадзенскіх сцэнах вельмі не хапала спектакля паводле класічнага твору беларускай драмы, які б востра актуалізаваў сацыяльна-палітычную і нацыянальную праблематыку. І вось рэжысёр Аляксей Ляляўскі, спакусіўшыся поспехам «Тутэйшых», адважыўся другі раз увайсці ў тую самую раку, г.зн. запрэзентаваць на сцэне былога тызенгаўзаўскага тэатру ў Гродне спектакль «Ліпавічкі», які стаўся доўгачаканым стрэлам у дзесятку.

Спектакль «Прыхадзень» быў адзначаны Міністэрствам культуры Беларусі як лепшая пастаноўка 1997 года. Мастак Алесь Сураў атрымаў міністэрскі дыплом і прэмію за сцэнаграфію да гэтага спектакля. А зусім нядаўна іншае «міністэрства» арганізавала паляванне на пацешныя карыкатуры Алеся Сурава. Што гэта - палітыка перніка і пугі? Напэўна, дзівосная іронія лёсу.

Самі ж артысты (у шырокім сэнсе гэтага слова), нягледзячы на матэрыяльныя ды побытавыя нястачы, забароны з розных інстанцый, не губляюць пачуцця гумару і дораць гледачам і сваім прыхільнікам незабыўную радасць, памятаючы, што жыццё кароткае, а мастацтва - вечнае. Мо таму за кароткі час яны аднавілі некалі папулярныя сярод наймалодшых спектаклі «Кентэрвільскі прывід» О.Уайльда, «Сіндбад-мараход» У.Фрыдмана, «У шчаслівай даліне Мумі-троляў» Т.Янсана...

Пажадайма ж напярэдадні Міжнароднага дня тэатра ўсім АРТЫСТАМ -няхломным арыстакратам духа, каб яны ніколі не гублялі свайго божага дару, і каб удзячныя гледачы заўсёды падтрымлівалі іх апладысментамі.

**Людвік Сарока**

**P.S.:** 27 сакавіка ў 17.00 артысты тэатра лялек, тэатра драмы, тэатра «Канкан» і мадэрн-балету «ТАД» ладзяць у памяшканні Гарадзенскага абласнога тэатра лялек адмысловы капуснік з нагоды Міжнароднага дня тэатра. Шчыра запрашаем.

# «Вясна Volvo» на Беларусі

**Законы прыроды, як і законы маркетынга, няўхільныя. Адпаведна ім, вядучы сусветны аўтавытворца Volvo Truck Corporation (VTC) напрыканцы другога тысячагоддзя новай эры скіраваў позірк на беларускі горад Віцебск. Менавіта з гэтага маляўнічага куточка Беларусі - віцебскага парка імя М.Фрунзэ другога красавіка гэтага года пачынаецца ўсебеларуская акцыя «Вясна Volvo», якая працягнецца да 31 траўня 1999 года.**

Фірмы, якія за два вясенніх месяцы заключаць з Volvo Truck Belarus (VTB - беларускае Прадстаўніцтва VTC, г.Менск) кантракты, маюць права на спецыяльную льготную маркетынгавую прапанову Volvo, што ўключае набыццё надзвычай якасных цягачоў з істотнай вясновай скідкай з кошту, доступ да сістэмы сэрвісу і хуткай тэхнічнай дапамогі Volvo (Action Servise), «смешныя» тэрміны пастаўкі прадукцыі. А гэта значыць: рэнтабельны нават ва ўмовах Беларусі бізнес - аўтаперавозкі па краінах Еўропы - атрымлівае значную падтрымку ад шведскага канцэрна.

Да 31 траўня гэтага года дзейнічае сістэма пастаўкі грузавікоў Volvo за 14 сутак (замест 16 тыдняў!) і вясенняя скідка з кошту для магістральнага цягача Volvo FH12 складае...13 000 нямецкіх марак. Такім чынам, за адны і тыя ж грошы - 145 тысяч DM - беларускі аўтаперавозчык гэтай вясной у стане набыць адразу два аўтамабілі: цягач Volvo - для свайго бізнеса - і седан - на прадстаўнічыя мэты.

Дзякуючы значнаму скарачэнню тэрміну пастаўкі (на ўмовах EX-Works Gothenburg у адпаведнасці з Incoterms 1990) павялічваецца абарот капіталу вашай фірмы. Перадаплата пры набыцці магістральных цягачоў Volvo FH12, грузавікоў для гарадскіх і міжгародніх перавозак FL6 складае ўсяго 15 працэнтаў ад кошту аўтамабіля. Гэтую суму належыць аплаціць на працягу 15 сутак пасля падпісання кантракта. Астатнія 85 працэнтаў кошту аплочваецца фірмай пры атрыманні аўтамабіля.

Магчыма таксама набыццё грузавікоў у лізінг. Яго тэрмін - 2-4,5 гады. Першы плацеж складае 15-20 працэнтаў цаны аўтамабіля, але гэтую суму можна выплаціць за два заходы. Перыядычнасць астатніх плацяжоў - штомесяц ці штоквартальна - вельмі зручная для партнёраў Volvo. З'яўляецца магчымай і арэнда аўтамабіляў.

Заводская гарантыя на аўтапрадукцыю Volvo - 12 месяцаў, без абмежавання прабегу. Усе аўтамабілі VTC адпавядаюць жорсткім патрабаванням «Super Green Lorry»...

**Сяргей Цюнін**

**Працяг у наступным нумары**



# Курсы валют

**На 24 сакавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют: даляр ЗША — 234.000 беларускіх рублёў; еўра — 254.884,50; нямецкая марка — 130.320,38; расійскі рубель — 9.630. У параўнанні з учарашнім днём, афіцыйны курс даляра не змяніўся.**

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 24 сакавіка даляр куплялі па 340.000—345.000 і прадавалі па 350.000—355.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём, курс не змяніўся.

**Дзмітрый Уласаў**

# Дарослыя хварэюць ад нерваў, а дзеці - ад кахання

**За два месяцы гэтага года, у параўнанні з мінулым, у Гродне і вобласці зменшылася колькасць хворых на пранцы. Пра сітуацыю з венерычнымі захворваннямі на Гарадзеншчыне расказвае загадчыца скурвенпаліклінікі Ірына Пігалева.**

- Сапраўды, пазначылася тэндэнцыя да зніжэння колькасці хворых на пранцы. У Гарадзенскай вобласці зарэгістравана выпадкаў на трэць менш. У Гродне за два месяцы 1998 года выяўлены 101 хворы, за той жа перыяд 1999 года - 63 чалавекі.

Аднак узрасла лічба хворых на пранцы сярод дзяцей і падлеткаў. Гэта жахліва, але цяпер гэтая страшная хвароба ўвайшла ўжо ў школы, - у мінулым годзе мы лячылі нават сямікласніка адной з гарадзенскіх школаў. Сёлета зарэгістравана хворых на пранцы сярод школьнікаў і студэнтаў тэхнікумаў, вучылішчаў і ВНУ 14 чалавек, тады як за ўвесь мінулы год іх было каля трох дзесяткаў.

***- Чым выклікана гэтая ўспышка сярод дзяцей і падлеткаў?***

- Невялікі рост захворваемасці назіраўся і раней, але не ў такіх маштабах. Гэта гаворыць пра непераборлівасць палавых сувязяў маладых і нізкую паінфармаванасць у сферы прафілактыкі венерычных захворванняў. Пранцы памаладзелі, і адна з прычын гэтага - масіраваная інфармацыйная атака з экранаў тэле- і відэа на маладыя галовы нашых дзяцей.

> Дактары адзначаюць хвалі ўспышак пранцаў. Першая пракацілася па Еўропе ў сярэднявеччы. Другая - пасля другой сусветнай вайны і, у Савецкім Саюзе, - пасля Вялікай Айчыннай вайны. Трэцяя мела месца ў 80-я гады ў свеце, у СНД пік прыйшоўся на 1996 год.

Нізкапробная масавая шоу-прадукцыя прапаноўвае свой рэцэпт шчасця: на ўсе выпадкі жыцця - прага задавальнення і сексу. Я не ханжа, не лічу, што нам трэба, як раней, навесці перад палавымі адносінамі жалезную заслону. Аднак і тое, што мы цяпер маем - скажоны шлях. Наша моладзь (ды і мы самі) яшчэ не паспела, яна не падрыхтаваная да такога патоку інфармацыі.

***- Аднак без ніякай інфармацыі і пры замоўчванні падобных тэм сексуальная асвета ведчанасць сама па сабе не з'явіцца?***

- Так. На сённяшні дзень мы можам прапанаваць адукацыйную дапамогу ўсім навучальным установам. Па дамове мы арганізуем лекторыі ў раздзельнай аўдыторыі - хлопцам і дзяўчатам распавядаем паасобку, каб не саромеліся задаваць пытанні. Аднак гэта яшчэ не выйсце. Я нічога новага не скажу, калі нагадаю бацькам, што галоўнае для дзяцей і падлеткаў - сямейнае выхаванне. А ў нас не рэдкасць, калі маці мітусіцца ў пошуках сякіх-такіх прадуктаў харчавання, а дзеці не знаёмы з элементарнымі правіламі асабістай гігіены. Многія хворыя да нас прыходзяць, нават не маючы ўяўлення, што гэта за хвароба такая -пранцы.

***- Пранцы лічацца самай небяспечнай хваробай з тых, што перадаюцца палавым шляхам?***

- Гэта праўда. Пранцы - гэта хвароба крыві, падчас якой пашкоджваюцца ўсе органы чалавека, а не толькі рэпрадукцыйныя, як пры іншых венерычных захворваннях. Калі своечасова не прайсці курс лячэння, то разбураюцца косткі, мозг, чалавек можа страціць розум і, у выніку, памерці. Тым небяспечней усякія спробы вылечыцца дома, з дапамогай разрэкламаваных цуда-лекаў ці кансультацыі знаёмых.

> Спецыялісты фонда «Стоп-СНІД» (Менск) сцвярджаюць, што прэзерватыў не засцеражэ ад заражэння пры палавым кантакце з хворым на пранцы чалавекам: існуе рызыка заразіцца праз пацалунак. Таму, уступаючы ў палавы кантакт з малазнаёмым партнёрам, пераканайцеся, што ён здаровы.

***- Напэўна, хворы з-за боязі пагалоскі ўсімі сродкамі будзе старацца вылечыцца ў «кустарных» умовах?***

- Самалячэнню садзейнічаюць свабодны доступ да лекавых прэпаратаў, шырокая іх рэклама і, відома, страх перад тым, што пра няшчасце даведаецца нехта з блізкіх ці знаёмых. Гэта на сённяшні дзень - праблема. Многія затойваюць хваробу да апошняга, уяўляючы небяспеку заражэння для тых жа сваякоў і сябровы. Нядаўна ў адным з раённых цэнтраў быў выпадак, калі паўтарагадовая дзяўчынка заразілася пранцамі бытавым шляхам праз сваю цётку. Хворая маладая жанчына даглядала дзіця: карміла, пераапранала - словам, быў цесны кантакт. Часта бацькі не даюць згоды на абследаванне дзяцей, а потым даведваюцца, што самі хворыя.

Я са свайго боку хацела б параканаць усіх не баяцца звяртацца да дактароў. Калі з'явіліся падазрэнне, што з вамі нешта не тое - прыходзьце да нас. У жыцці здараецца ўсялякае, мы тут ганеннем нікога не падвяргаем. Наадварот, стараемся. каб ўсё было па-добраму, на карысць чалавека. Якая розніца, дзе ён свою бяду сустрэў. Калі пацыент не жадае заводзіць медычную картку, ён можа атрымаць дапамогу ў кабінетах ананімнага абследавання ў паліклініцы.

Больш таго, у будынку скурвендыспансера, што на вуліцы Васілька, працуе начны пункт прафілактыкі венерычных захворванняў. Ён працуе з сямі гадзін вечара да раніцы. Калі адбылася выпадковая, можа нават непажаданая палавая сувязь, - лепш на працягу дзвюх гадзін пасля яе прыйсці і атрымаць першапачатковую прафілактыку і дэзінфекцыю ў начным пункце. Гэта дапаможа засцерагчыся ад хваробы.

***- Яшчэ загад народных камісараў ад 1936 года прадпісваў строга кантраляваць пранцаносьбітаў і лячыць іх строга ў закрытых стацыянарах...***

- Так, і гэта не заўсёды садзейнічала своечасоваму выяўленню і лячэнню хворых. Аднак з 1997 года сітуацыя змянілася: цяпер ёсць магчымасць выбраць паміж бясплатным лячэннем у бальніцы і амбулаторным, пад кантролем урача, за свой кошт. Аднак утойваць хваробу ўсё роўна нельга, абавязкова трэба лячыцца.

***- Ці адзначаюцца сезонныя ўспышкі вензахворванняў?***

- Летам рэгіструецца павелічэнне колькасці захворванняў на ганарэю. Таксама пасля летніх водпускаў, канікулаў, сельгасработ шмат хворых.

**- Вашы рэкамендацыі для захавання сябе ад «хваробаў кахання».**

- Усё ўсім вядома: не ўступаць у выпадковыя палавыя кантакты, асабліва ў нецвярозым стане; мець прэзервативы. Калі сувязь усё ж адбылася - звяртайцеся ў начны цэнтр прафілактыкі.

**Гутарыла Алена Сіневіч**

